Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 2 (26) Нядзеля, 27 Студзеня 1929 г. м. Вільня. Год II.



# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5. | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Нашыя правы.

У папярэднім нумары «Грамадзяніна» мы сканстатавалі незапярэчны факт значнага ўзмацненьня нацыянальнае сьвядомасьці сярод беларускіх вясковых гушчаў. Праяўляецца гэта не ў я іх-небудзь паасобных гвалтах проці урадавых чыньнікаў, ці рэвалюцыйным руху, як гэта мы бачым цяпер у Усх. Беларусі, але у пашырэньні і ўзмацненьні сьвядомасьці сваіх нацыянальных правоў, выцякаючых з Вэрсальскага трактату і Польскае Канстытуцыі 17 сакавіка.

Гэтаму спрыяюць ня столькі вонкавыя уплывы з Усходу, проці якіх Польшча адгароджана Кітайскаю сьцяною, сколькі сама польская ўнутраная нацыянальная палітыка, якая на практыцы зусім расходзіцца з тэорыяй. Мы не гаворым ужо аб дамаёвым пярыядзе, калі няўхільна і консэквэнтна праводзіўся эндэцкі прынцып — «Польшча для палякаў». Ваяўнічыя і няпрымірымыя нацыяналізмы усюды аднолькавыя і ўсюды у рэзультаце нясуць паражэньне. Але, нажаль, і пасьля маёвага перавароту, на які пакладаліся намі вялікія надзеі, становішча беларусаў нічым не палепшыла, хаця ўжо прайшло шмат часу. Пекны лёзунг — »вольны з вольным і роўны з роўным» Маршалка Пілсудзкага гэтак сама пакуль застаецца нявыкананым у адносінах беларусаў, як і Канстытуцыя і ўсе далейшыя справы у кірунку здавальненьня нацыянальна—культурных патрэбаў.

Праўда, польская дэмакрацыя, стаячая за плячмі Маршалка Пілсудзкага, быццам эдхрышчываецца ад прынцыпаў Ст. Грабскага і заяўляе, што „у Польскай дзяржаве павінны быць створаны для украінцаў і беларусаў гэткія варункі, каб яны маглі быць лёяльнымі грамадзянамі рэспублікі і каб мы мелі маральнае права трэбаваць ад іх гэнае лёяльнасьці» (Прамова пасла Лехніцкага ў Вільні 13-І). Але гэта толькі адны словы, вымяркаваныя больш на экспорт за граніцу, чым для ўнутранага ўжытку. Бо пры гэтым гаварылася аб правох палякаў, астаўся ў межах Нямеччыны, Літвы, Чэхіі, Радавае Расеі. Калі дамагацца правоў для іх, дык трэба-ж што-небудзь сказаць і аб сваіх меншасьцях.

Але калі мы зьвернемся да больш афіцыяльнае крыніцы, напрыклад, да апошняе прамовы ў Сойме міністра заграничных справаў Залескага і яго нядаўняй заявы, аднаму з прадстаўнікоў прэсы, дык ня знойдзем пацьверджаньня гэтых „добрых замераў" польскае дэмакрацыі. Пан міністар выразна дзеліць польскія нацыянальныя меншасьці на два разрады. Да

першага адносіць жыдоў, якія быццам сталі «лёяльнымі» і немцаў, якія, па славам п. міністра, карыстаюцца найбольшымі правамі ў Польшчы, хаця ў Лугана выразна заявіў аб іх нелёяльнасьці, чым вывеў з душэўнае раўнавагі Штрэзэмана.

Беларусы і украінцы заслужылі толькі на другое мейсца Гэта зусім зразумела. Тут справа не ў «лёяльнасьці» ці «нелёяльнасьці», а ў тым, што нямецкая нелёяльная меншасьць лепш арганізавана (гэта прызнаюць самі палякі) і мае сільныя плечы ў асобе Нямецкае дзяржавы, якая ўзмацняецца з кожным днём. За правы немцаў Штрэзэман стукнуў кулаком па стале у Лізе Народаў. За жыдоў гэтак сама заступяцца Нью-ёрскія банкіры—жыды, ад якіх залежаць пазыкі для Польшчы, без якіх яна ня можа абыйсьціся.

А хто ж можа заступіцца за беларусаў і украінцаў? Савецкая Беларусь і Украіна самі зьяўляюцца фікцыямім і вядуць барацьбу за сваю незалежнасьць. Што-ж датычыць Савецкае Расеі, дык яна на‘т здаволена, калі уціскаюцца нац. меншасьці ў межах іншых дзяржаваў. Бо гэта, па іх меркаваньням, хутчэй прывядзе да выбуху адкрытае рэвалюцыі, да якой яны імкнуцца ўсімі сродкамі.

Дык застаюцца толькі міжнародныя трактаты, на якія мы можам і маем права паклікацца ў барацьбе за свае нацыянальна-культурныя правы.

Вэрсальскі трактат, паклікаўшы да жыцьця новыя дзяржавы, незалежна ад іх удзелу у мінуўшай вайне на тым, ці другім баку і іх уплыву на рэзультаты гэтае вайны, для ўнікненьня новае вайны адначасна абмежаваў і самаволю гэтых новатвораў у адносінах іх нацыянальных меншасьцяў. І калі Польшча з усяе сілы імкнецца да захаваньня ў цэласьці Вэрсальскага трактату, які гварантуе мір на Усходзе Эўропы, і свае незалежнасьці, у той час як немцы, наадварот— імкнуцца да перагляду яго і зьмены польска-нямецкае граніцы на падставе § 19 статуту Лігі Народаў, праўда, пакуль «мірным» спосабам, дык у гэтым ёсьць і гварантыя нашых нацыянальных правоў, як прызнанае нацыянальнай меншасьці.

Ласьне, на наступнай сэсіі Рады Лігі Народаў па ініцыятыве Штрэзэмана будзе разглядацца ў поўным абыйме пытаньне аб нац. меншасьцях, асабліва ў Польшчы. Спадзяёмся, што нашае парлямэнтарнае прадстаўніцтва гэтак сама напомніць высокаму трыбуналу аб лёсе беларусаў, бо нечага спадзявацца на Штрэзэмана, які будзе бараніць толькі сваіх, а мін. Залескі сваіх у межах іншых дзяржаваў.

Што-ж датычыць таго, што нам разам з украінцамі адмаўляюць у нашых справядлівых нацыянальна-культурных правох на тэй падставе, што большасьць беларусаў і украінцаў не здабылі сабе незалежнасьці ў граніцах Савецкае Расеі (а ці здабыла-б сама Польшча гэтую незалежнасьць, калі-б ня былі разьбіты немцы на Захадзе?), дык гэта вельмі слабае і ня вытрымліваючае ніякае крытыкі апраўданьне.

Па-першае, бальшавікі ставяць у аснову свае праграмы не нацыянальнае, а клясавае пытаньне. Дзеля гэтага на‘т выкрэсьлілі з географіі назоў „Расея", пакінуўшы аднак-жа назвы Савецкае Бэларусі і Савецкае Украіны.

Па-другое, мы да гэтае пары наагул унікалі ставіць у прыклад Польшчы адносіны маскоўскіх дыктатараў да Усходняе Беларусі і Украіны. Гэта былобы абразаю для кожнае культурнае нацыі. Але калі нас выклікаюць на шчырасьць, дык прыдзецца сканстатаваць, што ў Усх. Беларусі дзяржаўнаю моваю ўсё-ж такі прызнана беларуская і гэта праводзіцца ў жыцьцё. Там ёсьць беларускі дзяржаўны Унівэрсытэт, беларускі дзяржаўны тэатр, навуковая беларуская акадэмія, усе дзяржаўныя беларускія сярэднія і пачатковыя школы і г. д. Але і гэта не здавальняе беларусаў, якія вядуць няўпынна аружную барацьбу са сваімі прыгнетчыкамі.

А што-ж маюць беларусы у Заходняй Беларусі??

---

Чытайце і пашырайце сваю газэту ў роднай мове.

# Дзьве меркі.

Рэчы заўсёды здаюцца такімі, з якога боку ці з якою меркаю да іх падыйсьці.

Гэтак сама і палітычна-гаспадарчае становішча Польшчы з розных бакоў гледжаньня выглядае розна: для эндэкаў яно здаецца гэтак, для „санатараў“ інакш, а для польскае лявіцы яшчэ інакш. Лепшым доказам гэтае простае аксіёмы зьяўляюцца ацэнка становішча Польшчы двума зьездамі, якія адбыліся ў Вільні ў нядзелю 13 студня, адзін — зьезд і пасольская акадэмія „Zjednoczenia Pracy Wsi i Miast“ і другі — агульны сход Stronnictwa Narodowego.

Першы адбыўся надзвычай урачыста. Паводле зараней уложанае праграмы на гэтым зьездзе, урачыстая акадэмія якога адбылася ў тэатры „Рэдута“ у нядзелю ад 12 да 3 гадзіны па паўдні, павінны былі быць прысутнымі дэлегаты „Zjednoczenia Pracy Wsi i Miast“ з ваяводзтваў Віленскага, Наваградзкага, Беластоцкага і Палескага, роўным чынам паслы і сэнатары Блёку супрацоўніцтва з урадам ад гэтых ваяводзтваў. Праўда, саля тэатру была перапоўнена, што на‘т не хапала сядзячых мейсц.
Але трудна было заўважыць шмат дэлегатаў ад вёскі. Затое віленскіх урадоўцаў было шмат, бо былі прысутнымі Віленскі Ваявода п. Рачкевіч, Віцэ-Ваявода п. Кіртыкліс, прэзыдэнт места Вільні, гарадзкі староста, прадстаўнікі войска і г. д.

Пасьля прывітаньня зьезду сэнатарам Абрамовічам і выбару прэзыдыўму, з палітычнаю прамоваю выступіў віцэ-старшыня Беспартыйнага блёку супрац. з Урадам і старшыня Zjed. Zw. Pracy Miast i Wsi пасол Мар‘ян Косьцялкоўскі. Яго прамову, поўную оптымызму на будучыню, можна выразіць у наступных славах:

Да маёвага перавароту у адроджанай 11 лістападу 1918 г. Польшчы было шмат азнакаў Польшчы да разьдзелу. Толькі ў траўні 1926 г. наступіла рашучая зьмена адносінаў. Маёвыя выпадкі пазволілі паставіць Польшчу на новы шлях разьвіцьця. Маёвыя выпадкі высунулі на чало польскага грамадзянства людзей, якія з думкаю аб Дзяржаве і для Дзяржавы пачалі сваю пасьпешную працу, якая ў рэзультаце прывяла Польшчу да вялікага „мацарствовага“ значэньня па міжнародным тэрэне.

Цяпер Польшча мае ўраўнаважаны бюджэт. Сойм узяты „у цуглі дзяржаўнасьці“, поўны скарб, устабілізаваную валюту, сільную ўладу у дзяржаве і войска, „якому нам зайздросьціць увесь сьвет.“

Аднак-жа, як казаў прамоўца, ня ўсё яшчэ дасягнута. Дзеля гэтага заклікае да далейшае працы, бо ніколі Польшча ня мела і доўгі час і мець ня будзе гэтакай шчасьлівай кон‘юктуры, як цяпер пад уладаю Маршалка Юз. Пілсудзкага.

Наступны прамоўца, віцэ-старшыня Zjedn. Pracy Zw. Wsi i Miasta пасол Лехніцкі выгласіў доўгі рэфарат аб нацыянальных меншасьцях. Але ня думайце, што ўвесь час гаварыў аб меншасьцях, якія жывуць ў Польшчы. Не. Аб польскай меншасьці ў Нямеччыне. Аб заходняй і ўсходняй граніцы Польшчы, якія быццам ня зусім адпавядаюць нацыянальна-гістарычным правом Польшчы. Гаварылася аб гістарычных абмылках Польшчы на захадзе, аб Усходняй Прусіі, закончыўшы славамі польскага караля Сыгізмунта I, што „яна (Ўсх. Прусія) пакуль не мая, але будзе маей“, аб тым, што ня выкарысталі ў свой час прыхільнасьці гайдамакаў, дзякуючы чаму Украіна і Крым адыйшлі да Расеі, а не да Польшчы і г. д.

А калі прамоўца дайшоў да становішча нац. меншасьцяў у граніцах Польшчы, што асабліва магло цікавіць пераважаючую частку жыхарства нашага Краю, дык былі пададзены дзьве запіскі з просьбаю, каб хутчэй канчаў, бо час ісьці на абед у рэстаўрацыю „Жоржа“. Перапрасіўшы слухачоў, што змушаны хутчэй канчаць свой рэфарат з недахопу часу, прамоўца толькі сказаў, што дзіўнымі здаюцца нацыянальныя вымаганьні беларусаў і украінцаў ад Польшчы у той час, як яны ня маюць незалежнасьці ў Расеі. У гэтым „санатар“ пасол Лехніцкі зусім сходзіцца з эндэкам паслом Стронскім, як убачым ніжэй.

Калі цяпер зьвернемся да другога зьезду, які адбыўся ў гэты-ж дзень у Вільні, праўда ўжо без такога шыку і помпы, — зьезду Віленскіх эндэкаў, галоўных працаўнікам маёвага перавароту, дык у яго ацэнцы сучасная сытуацыя Польшчы прадстаўляецца зусім наадварот. За адно толькі зьмяшчэньне справаздачы з гэтага зьезду эндэцкі орган „Dziennik Wilenski“ № 12 быў сканфіскованы уладаю. Дзеля гэтага мы ня можам падаць усяго таго, што там гаварылася аб сучасным стане ў Польшчы. Паводле эндэцкае апініі, ў Польшчы ўсё было добра толькі да маёвага перавароту (для эндэкаў, як быўшых у ўладзе можа і так, але не для ўсіх!)

Нарэшце выгласіў прамову пасол Стронскі аб нац. меншасьцях у Польшчы. Адзіная вартасьць эндэкаў, што яны хоць проста і адкрыта кажуць тое, што думаюць, а ня віляюць хвастом, як гэтак званая польская дэмакрацыя. Пан Стронскі кажа, што праблема прыналежнасьці усходніх зямель Польшчы ужо не зьяўляецца пытаньнем спрэчкі між Польшчаю і Расеяй, але Польшча мае дачыненьне з дзяржаўнымі жаданьнямі „гэтак званых“ украінцаў і беларусаў.

Аднак-жа народаў беларускага і украінскага ў Зах. - эўропейскім разуменьні (а можа ў разуменьні польскае эндэцыі?) ня

было да гэтае пары і цяпер няма. Бо калі-б пэўнага дня мы пакінулі зямлю, на якую маюць прэтэнсію беларускія і ўкраінскія дзеячы, дык не паўстала-бы на гэтых землях беларускае ці ўкраінскае дзяржавы, але прыйшла-б на наша мейсца Расея, бальшавіцкая, ці царская, ці іншая.

Адсюль вынікае, што Польшча здабыцьцём сваіх цяперашніх граніцаў прынамся не перашкодзіла ўзьнікненьню беларускае ці ўкраінскае дзяржавы...

Як бачым з прамоваў „санатараў" паслоў Косьцялкоўскага і Лехніцкага з аднаго боку і эндэка пасла Стронскага з другога, гэтыя два палітычныя польскія кірункі дыямэтральна расходзяцца толькі ў ацэнцы агульна-польскае сытуацыі. Першыя глядзяць на стан рэчаў праз „санацыйныя" акуляры і ўсё бачаць у ружовых фарбах толькі пасьля маёвага перавароту, а другія праз эндэцкія, і бачаць усё ружовым да маёвага перавароту. І як тыя, гэтак і другія зусім праўдзівы, бо калі эндэкі былі ў уладзе да маёвага перавароту, дык ім было добра, а цяпер горэй. І наадварот.

Што-ж датычыць адносінаў да нац. меншасьцяў ў Польшчы, асабліва беларусаў, дык „санатар" Лехніцкі зусім згаджаецца з эндэкам Стронскім. Выпцам умовіліся, як гавараць аб беларусах і украінцах. Калі-б ня былі гэтыя прамовы выглашаны ў адзін час і ў розных мейсцах, дык можна было падумаць, што адзін запазычыў ад другога.

Калі-ж цяпер зьвернемся да аднае з гэтых „гэтак званых" нацыянальнасьцяў, беларускае, і спытаемся, а якой-жа яна апініі адносна маёвага перавароту, г. ё. калі лепей жылося беларусам — да маёвага перавароту ці пасьля, дык атрымаем адзін адказ: што аднялі ад беларусаў да маёвага перавароту эндэцка-пястоўскія ўрады, таго не атрымалі пакуль пасьля маёвага перавароту. Як тады турмы былі поўныя беларусамі, гэтак і цяпер. Школы беларускія як пазачынялі, дык і да гэтае пары ня маем. Раней называлі камуністымі толькі „Грамаду", а цяпер на'т Бел. Хр. Дэмакрацыя залічана да камуністаў.

Адсюль бачым, што ў адносінах да беларускае справы як была, гэтак і засталася толькі адна мерка—не прызнаваньня іх нацыянальных і культурна-асьвятовых правоў, гварантаваных Вэрсальскім трактатам і істнуючай польскай Канстытуцыяй. Гэта вельмі выразна ўявілася пасьля двух названых зьездаў у Вільні 13 студня.

# Палітычная хроніка

## З ПОЛЬШЧЫ.

### Бурнае паседжаньне Соймавае камісіі.

На паседжаньні Соймавае бюджэтнае Камісіі 15 студзеня на дзенным парадку стаяў бюджэт Міністэрства ваенных справаў. Пры разглядзе бюджэту данага Міністэрства заўсёды былі прысутнымі прадстаўнікі адносяга Міністэрства, якія давалі вызсьненьні. Між тым на гэтым паседжаньні ня было прадстаўніка Ваеннага міністэрства. У зьвязку з гэтым завязалася вельмі цікавая дыскусія.

Старшыня Камісіі пас. Бырка заявіў, што Ваеннае міністэрства было паведамлена аб тым, што на дзенным парадку разгляд ваеннага бюджэту. Некаторыя з паслоў трэбавалі перарыву паседжаньня, пакуль ня высьветліцца справа.

Дакладчык пас. Косьцялкоўскі заявіў: Маршалак Пілсудзкі, ваенны міністар, даў мне, як дакладчыку усе інфармацыі па ваенным справам, заявіўшы, што калі сам ня будзе на паседжаньні бюджэтнае камісіі і ня прышле сваіх прадстаўнікоў, дык толькі дзеля таго, што баіцца, што на паседжаньні могуць здарыцца прыкрыя інцыдэнты абразьлівых адносінаў да афіцэраў.

Пасол Роня: Я падтрымліваю прапазыку, што маем права трэбаваць, каб явіўся Урад. Сойм гэтак сама мае свой гонар, які належыць уважаць. Калі Сойм не заслугоўвае на тое, каб Урад сюды прыходзіў, дык няхай будзе распушчаны. Няхай будзе поўная дыктатура, а не поўдыктатура.

### Польска—Савецкія ноты.

У адказ на Савецкую ноту, прапанаваўшую Польшчы падпісаць асобны дагавор на падставе пакту Кэлога, польскі Міністар заграничных справаў выслаў кароткую, але рашучую ноту, у якой падкрэсьлена, што няма ніякай патрэбы ў падпісаньні асобнага дагавору з Саветамі.

Адказ-жа гэты рашучы адказ не задаволіў Саветаў, якія зараз выслалі польскаму Ураду новую, вялізарную ноту, палемізуючую з польскім адказам. Са зьместу гэнае ноты зусім ня можна даведацца, чаго ласьне хочуць бальшавікі ад Польшчы і што іх змусіла псаваць паперу на гэтую перапіску

### Арышт 100 камуністаў у Домброве.

Польскія газ. паведамляюць, што у Домброўскім басэйне застала адкрыта вялікая камуністычная арганізацыя, сярод больш як 100 арыштаваных некаторыя жылі на савецкім утрыманьні, а 3 западозраны у шпіянажы.

І скуль бяруцца гэтыя камуністы? Арыштуюць і арыштуюць дзесяткамі і сотнямі, саджаюць па турмах, а яны растуць, як грыбы пасьля дажджу. Мусіць ёсьць карысны грунт для разьвіцьця камунізму.

### Адзін з будаўляных праэктаў.

Пры разглядзе бюджэту пошты і тэлеграфу у Соймавай Камісіі між іншым узяў слова прадстаўнік N. I. K. (Вышэйшай Ізбы Кантрольнай) Фуругіельм, сказаўшы наступнае:

N. I. K. пасьля кантролю работы пры будоўлі цэнтральнага гмаху тэлеграфу і тэлефону выслала да міністэрства 4 лісты з увагамі, але да гэтае пары не атрымала адказу. Створана пры гэтым міністэрстве бюро будовы з яго органам — бюро праэктаў. Існаваньне гэтых бюро не прадбачана ні арганізацыйным статутам міністэрства, ні бюджэтам на 1928-29 г. На чале гэтых бюро стаіць інжынэр, які апрача пэнсіі па VI катэгорыі атрымлівае яшчэ 3,000 у месяц (нічога сабе! Можна праэктаваць!), што пярэчыць ухвале Рады міністраў, паводле якой дадаткі да пэнсіі ня могуць перавышаць 500 зл. Пэнсія служачых бюро праэктаў у месяц складае 20 935 зл.

Але цікава вось што: ужо некалькі месяцаў ідзе праца каля будовы гмаху, а да гэтае пары ня зроблены праэкт гэгае будоўлі

Затое дарагі будзе праэкт!

## З ЗАГРАНІЦЫ.

### Ваенны бюджэт Нямеччыны

Ваенны бюджэт Нямеччыны на 1929 30 г. складае 704 міл. мар., на 23 міл. менш, чым у мінуўшым годзе. У перакладзе на злотыя гэта складае каля 1,500 міл. зл. на армію ў 100,000 чал. Польскі ваенны бюджэт на наступны год складае каля 800 міл. зл., ці каля паловы нямецкага. Акрамя таго, немцам пазволена трымаць 150,000 паліцыі, якая мае ваенную арганізацыю і кошт утрыманьня якой пакрываецца бюджэтам унутраных справаў. Гэткім чынам, немцы маюць фактычна ня 100,000 армію, а 250,000 сталую армію, якую трэба разглядаць, як кадр для будучых мільённых арміяў, бо, напрыклад, кожны шараговец павінен умець камандаваць ротаю, а артылерысты — батарэяй і г д.

„Berl. Tgb." прыводзіць некалькі лічбаў з нямецкага ваенна—марскога бюджэту: 13,4 міл. м. на будову новага браняносца „A" (усяго асыгнавана 80 міл. м.), на заканчэньне будовы крэйсэра „Кёльн"—6,9 міл. м., трэцяя рата на будову крэйсэра „E" 6 міл.м., на аканчаньне будовы 6 вялікіх мінаносцаў — 3,6 міл. м., на новае артылерыйскае ўзбраеньне браняносца „Ганновэр" 1,000'000 мар. і г. д. Як відаць адсюль, „пацыфістычныя" немцы не адстаюць у узбраеньні ад сваіх суседзяў.

### Рэвалюцыйны пераварот у Аўганістане.

Пасьля павароту аўганскага караля Аманулаха з жонкаю з адведзінаў Эўропы з навучнаю мэтаю, каб затым правясьці ў сябе рэформы, у Аўганістане, выбухла рэвалюцыя. Звычайна рэвалюцыі падрыхтоўваюць цяпер бальшавікі. Але ў гэтым выпадку прылажылі сваю руку англічане, якім не падабалася рэформатарская праца Аманулаха у Аўганістане побач з Індыяй, якую яны сьцерагуць, як зрэнку вока. Хаця прыймалі Аманулаха ў Лёндане вельмі гасьцінна (яму далі на 2 міл. даляраў падарункаў), але англічанам не падабалася, што ён потым паехаў да Масквы, а затым да Ангоры. І яны дасягнулі таго, што ангельскі палкоўнік падняў паўстаньне горных пляменьняў проці караля, а сам уцёк да Індыі на аэрапляне. Доўгая барацьба Аманулаха з паўстанцамі кончылася астаўленьнем ім трону. Цяпер у Варшаве маюць клопат з тымі ордэнамі, якія б. кароль Аманулах павыдаваў у часе сваей візыты восеньню мінулага году.

### Абвешчаньне абсалютызму ў Юга-Славіі.

Кароль Сэрбаў, Харватаў і Славенцаў абвясьціў абсалютную манархію. Парлямант (скупшчына) зьнішчаецца. Сам кароль вызначае міністраў і рэпрэзэнтуе каралеўства перад заграніцаю. Уся ўлада, як законадаўчая, гэтак выканаўчая ў руках караля. Гэты крок караля выкліканы няздольнасьцю парляманту стварыць сільны ўрад і утрымаць парадак у краю.

### Сьмерць вял. кн. Мікалая Мікалаевіча.

На паўдні Францыі сканаў вялікі князь Мікалай Мікалаевіч Раманаў, які быў у пачатку сьвятовай вайны галоўным камандуючым расейскае арміі. Мікалай Мікалаевіч урадзіўся ў 1856 г. Пасьля вымардаваньня ўсяе царскае сям'і вял. кн. Мік. Мікалаевіч лічыўся першым кандыдатам на царскі трон у Расеі.

## Тутэйшая хроніка,

— **Паседжаньне Бел. Нац. К-ту.** 13 студзеня адбыўся сход Бел. Нац. К-ту, на якім між іншым разглядалася справа забароны Віленскага Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага належыць каталікам да Б. Хр. Д. і чытаць „Беларускую Крыніцу.

— **У Бел. Нацыянальным Камітэце.** Пасьля высылкі гр. Савіцкага — Старшыні № 1-га Бел. Нацыян. Камітэту, які (камітэт) і наагул быў бясчынны, ніколі ня зьбіраючы і не даючы аб сабе ніякага водгуку жыцьця—ўсе паўнамоцтвы ў сучасны момант

больш-менш перайшлі да Нац. Камітэту № 2, якія знаходзіцца, як ведама і нажаль толькі, у руках і пад уплывам „Сель-Саюза“ і беларускае хадэцыі.

13-га гэтага м-ца адбылося паседжаньне Камітэту, на якім між іншымі справамі разглядалася адозва Віленскага Арцыбіскупа адносна партыі Бел. Хрысьц. Дэмакрацыі і органу яе „Віеł. Кгупіса“ і ўхвалілі наступны пратэст:

„Беларускі Нацыянальны Камітэт на паседжаньні дня 13.І.1929 г. разгледзіўшы справу лісту выданага Віленскім каталіцкім Арцыбіскупам дня 10.XII. 1928 г. і забараняючага належаць каталіком да Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі і чытаць „Віеł. Кгупіса“, прышоў да такіх вывадаў:

1. Забарона гэта мае **палітычны**, а не рэлігійны характар, бо:

а) не падае аніякіх фактаў і рэлігійных матываў, дзеля якіх яна выдана.

б) забарона не датычыць польскіх партыяў і газэт, маючых такую самую праграму, як Б. Х. Д. і „В. Кгупіса“.

в) забарона ня была выдана тады, калі праграма Б. Х. Д. была публікавана (1926 г.), а толькі цяпер, калі Арцыб. Ялбжыкоўскі павысылаў беларускае духавенства з беларускіх парахвіяў і гэтым ачысьціў дарогу для свaeй полёнізацыйнай дзейнасьці.

2. Забарона Арцыбіскупа ёсьць **несправядлівай** і **крыўднай** для Беларускага Народу, бо мае на мэце перашкодзіць усьведамленьню Беларусаў-каталікоў і гэтым самым правясьці пры помачы Каталіцкага Касьцёла полёнізацыю каталіцкай часьці Беларускага Народу. Апроч таго, што забарона ёсьць крыўдная і несправядлівая, яна ёсьць і нясумленная з боку хрысьціянскага пастыра, бо паказываючы на Б. Х. Д., як на бальшавіцкую арганізацыю, скіровывае няслушна паліцыйныя ўлады на сяброў Б.Х.Д.

3. Забарона выклікае **барацьбу** паміж польскім духавенствам і беларускім народам і вядзе да зьдзекаў польскага духавенства над сумленьнем Беларусаў-каталікоў. Гэтыя зьдзекі пераходзяць у **рэлігійны тэрор**, які тасуецца польскім духавенствам да сяброў Б Х. Д. і чытачоў „Віеł. Кгупісу“, як гэта ўжо было ў Жодзішках, і ў рэзультаце можа прывясьці да непажаданых эксцесаў.

Бяручы пад увагу ўсё гэта, Беларускі Нацыянальны Камітэт пастанавіў:

І. Запратэставаць перад Вышэйшымі Духоўнымі Уладамі проціў несправядлівай і крыўднай для Беларускага Народу палітычнай дзейнасьці Віленскага Арцыб. Ялбжыкоўскага.

ІІ. Даручыць Бел. Пасольскаму Клюбу выступіць перад польскім урадам з дамаганьнем спыніць палітычную дзейнасьць Арцыб. Ялбжыкоўскага, якая вядзецца пры помачы рэлігійнага тэрору над беларускім каталіцкім насельніцтвам і можа выклікаць непажаданыя эксцесы.

Вільня, 13.І. 1929. Бел. Нац. Камітэт“.

**— У Бел. Дабрадзейным Т-ве.** Адбыўшыя выбары ў Урад, дзе перавагу ўзяла група ўмеркаваных радыкалаў, выклікала незадаваленьне старога Ураду і Рэвізыйнае Камісіі. І ў „Віеł. Кгупісу“ зьмешчана пісьмо Старшыні Рэвізыйнае Камісіі, які дзеля нейкіх не прыстасаваных сходам праўных падставаў быццам уняважняе гэтыя выбары.

**— Сьвята Хрышчэньня.** 19-га студзеня (па стараму стылю 6 студзеня) у Вільні адбылося ўрачыстае вадахрышча ў рэчцы Віліі. Пасьля набажэнства ў Прачысьценскім саборы, дзе прыймаў удзел мітрапаліт Феадосі, вырушыла працэсія з харугвамі на Вілію, дзе на спэцыяльна наладжаным і багата ўдэкараваным зеленьню памосьце мітр. Феадосі дапанаў цэрэмоніі вадахрышча. На набажэнстве былі прысутнымі: прадстаўнік Ваяводскіх уладаў—начальнік рэлігійнага аддзелу п. Нарвойш, начальнік Віл. Окр. генерал Крок-Пашкоўскі, камэндант гарнізону палк. Гіжыцкі. нач. паліцыі і т. д.

У працэсіі бралі ўдзел: ганаровая рота жаўнераў, 2 вайсковых аркестры і праваслаўныя жаўнеры. Пяяў архірэйскі хор. На набажэнстве і вадахрышчы было тысячы прысутных. Адносіны Ўладаў да гэтага традыцыйнага праваслаўнага сьвята зрабілі на ўсіх як найлепшае ўражаньне. Наўзорны парадак падтрымліваўся кардонам войска і паліцыяй.

**— З Віленскае Бел. Гімназіі.** Пасьля сьвятаў заняткі ў Гімназіі распачаліся нармальна. Звольненых перад сьвятамі некалькі вучняў за ўдзел у нелегальнай зборцы. Кураторыюм прыняць з паваротам адмовіўся.

**— Наданьне публічных правоў Бел. Гімн. у Навагрудку.** Як пішуць польскія газэты, Кураторыюм Віленскага Школьнага Округу аднёсься прыхільна да складзенага праз Навагрудзкую Бел. Гімназію мэмор'ялу ў справе наданьня публічных правоў Гімназіі і паведаміў Гімназію, што па выкананьні яшчэ некаторых дадатковых вымаганьняў, гэныя правы застануць гімназіі зацьверджаныя.

**— У справе Радашкаўскае Гімназіі.** Б. сэнатар Уласаў закладчык і фактычны апякун Радашкаўскае белар. Гімназіі, якая, як ведама была зачынена уладамі быццам за анты-дзяржаўны кірунак—у гэтых днях быў прыняты Віцэ-Ваяводай Кіртыклісам, якому інтэрвэняваў у справе гэнае Гімназіі і, як пішуць польскія газэты, выезд Школьнага Куратара ў Варшаву мае сувязь з парушаным праз А. Уласава справай паноўнага адчыненьня Гімназіі.

**— Новая беларуская пачатковая школа.** У Валожыне адкрылася беларуска—польская утраквістычная 7-мі клясовая пачатковая школа.

**— Чарговая інсынуацыя.** „Dziennik Wilenski“ ня можа вытрымаць, каб не крануць каго-колечы з праваслаўных. Гэтак ў рэвізыце Я. П. Архірэя Феадосія, якога з п. Т. Вернікоўскім зьвязвае даўнейшае знаёмства — углядзеў нейкую сувязь з праваслаўнай Мітраполітальнай Радай. Маніўбы, але знаў бы меру.

**— Перагляд справы „Грамады“.** Паводле польскіх газэтаў, Апэляцыйны суд у Вільні ўжо вызначыў на адным з апошніх паседжаньняў тэрмін разгляду справы „Грамады“. Справа гэтая будзе разглядацца ў сакавіку. Склад суда яшчэ ня вызначаны, хаця ходзяць чуткі, што старшынёю будзе віцэ-старшыня Апэляцыйнага суда п.Дмохоўскі, дакладчыкам справы—судзьдзя Сопгайло.

На лаве абвінавачаных зноў засядзе 56 асобаў, г. ё. ўсе абвінавачаныя з першае інстанцыі, дзеля таго што адносна ўнявіненых апэляваў пракурорскі Урад. Значная частка асуджаных сядзіць, як ведама, ў турмах у Вронках, Быдгошчы і Беластоку.

**— Нашая прэса.** Як нас інфармуюць, радыкальныя часопісі „За Працу“ і „Маланка“ па незалежным ад іх абставінам часова ў выхадзе спынілася.

Замест гумарыстычнае „Маланкі“, будзе выходзіць доўгі час маўчаўшы „Авадзень“ пад старым рэдактарствам А. Васілеўскага.

**— Новая часопісь.** Як паведамляюць польскія газэты, да Віленскага Старасты зложана дэкларацыя гр. Стэфана Барткевіча ў справе выдавецтва новай беларускай часопісі—месячніка, характару асьвятова-рэлігійнага, над назовам „Новы Шлях“.

Трэба думаць, што гэты „Новы Шлях“ будзе кірунку мэтадыстычнага.

**— Спэктаклі.** — 13 і 20 студзеня адбыліся у Бенецы два спэктаклі, наладжаныя тэатральнаю трупаю пры Беніцкім гуртку „Прасьветы“ супольна з палякамі.

**— Арышт рэдактара „Dz. Wil.“** Віленская эндэцкая часопісь „Dziennik Wilenski“ (№ 11) падае наступнае апавяданьне аб арышце яе рэдактара Станіслава Кодзя:

„Учора“ — піша газ. — нашага рэдактара п. С. Кодзя паклікалі да судовага сьледавацеля II вуч., дзе яго дапытывалі ў справе сканфіскаванага артыкулу.

Пасьля дапросу судовы сьледавацель заявіў, што можа быць звольнены пад залог у 50 зл, але К. адмовіўся плаціць гэты залог дзеля тае прычыны, што да гэтага часу падобнага роду сродкі асьцярогі не стасаваліся ў адносінах рэдактараў польскіх газэтаў (а ня польскіх?!). Прыпамінаем, што ў аналёгічным выпадку некалькі тыдняў назад сродак перасьцярогі дзеля заявы К., што не ўнясе залогу, быў заменены дэкларацыяй аб неадлучцы. Аднак-жа на гэты раз К. арыштавалі і скіравалі ў турму на Лукішках.

Перш-на-перш, згодна з загадамі пастарунковай паліцыі ў прысутнасьці судовага сьледавацеля абыскалі арыштаванага ці ня мае аружжа. У турме каля гадзіны К. чакаў на сваю чаргу сярод арыштантаў, адзін з якіх быў у кайданах.

Пасьля сьпісаньня пратаколу быў узяты одціск пальца, адабралі грошы, загарак, пярсьцёнак і гэтыя рэчы перадалі сторажу.

Пасьля наступіла больш падрабязная рэвізыя: абыскалі падшыўку ў капялюшы, кішэнь, забралі з іх усё да паперкі, забралі падцяжкі, галстук (каб не павесіўся), прычым дазорца абяцаў, што калі „вязень“ будзе добра сябе трымаць, дык пасьля некалькіх дзён атрымае права падачы просьбы да начальніка турмы на дазвол нашэньня галстука. У хуткім часе прыйшоў загад пракурора аб звальненьні.

Пасьля аналёгічнае працэдуры, толькі ў адваротным парадку К. каля 4 г. на другі дзень быў звольнены.

Як пазьней ўяўнілася, адзін з асабістых прыяцеляў К. без паразуменьня з ім унёс каўцыю і г. д.

Дзіўна, чаму рэдактар „Dz. Wil.“ незадаволены такім „цэрамоніялам“ пры арышце рэдактараў. Гэта-ж не для п. Кодзя спэцыяльна ўведзены гэткі парадак, а для ўсіх. Калі-б гэтакі выпадак здарыўся з якім-небудзь беларускім рэдактарам, дык „Dz. Wil.“ пэўне-ж не злаваўся-б і быў-бы задаволены.

## *Чую, кажуць...*

Чую, кажуць,—шчасьце-доля,
Як вясёлка, стала зьзяць,
Прамяніста радасьць - воля
Прыляцела пацяшаць.
Чую, кажуць, - беды, гора
Сьціхнуць жаласна крычаць.
Сьлёз гарачых, сьлёз тых мора
Сэрц ня стануць захлынаць.
Чую, кажуць,—цяжкі раны
Хто пасьмее задаваць?
Дым няўпыннае пашаны
Вечна будзе акружаць.
Чую, кажуць, — ўсе прынукі
Бы даткнулісь, адляцяць!
Жуду пекла, суму мукі
Душ ня стануць пажыраць.
Чую, кажуць, — на век векі
Праўда будзе панаваць!
Гэй, ня лжэце-ж! Крыўда, зьдзекі
Ишчэ ня сьціхлі бушаваць!

Ўлад-Ініцкі.

# Карэспандэнцыі.

## Як праводзіцца камасацыя.

Няглядзячы на тое, што Урад прыхільна трактуе справу пераходу сялян на хутары, а мясцовым зямельным установам высылаецца шмат рожных інструкцыяў, загадаў, камасацыя праводзіцца надта марудна. Адна з прычынаў гэткае маруднасьці—злая воля, ці што іншае некаторых паветовых зямельных установаў.

Дзеля прыкладу вазьму Нясьвіскі павет. Тутака камасацыя праводзіцца так, як падабаецца зямельнаму камісару п. Кучыньскаму. Адну вёску скамасуе ў працягу году, а іншую будзе цягнуць невядома колькі год. Спытайцеся першага-лепшага селяніна скамасаванай вёскі Нясьвіскага павету, ці задаволены ён з камасацыі, і ён адкажа, што не.

Камасавалася вёска Паноч. I вось лепшую зямлю гэтых сялян аддалі асаднікам, а ім далі нейкія пяшчаныя горы, ды балотныя нізіны. Згарэла ў 1922 г. вёска Кухчыцы, і з тае пары яна ніяк ня можа перайсьці на хутары. I тутака сялянам прыйшлося забраць самую горшую зямлю, а лепшыя кускі дасталіся невядома каму.

Шмат несправядлівасьці і прыкрасьці было і пры камасацыі вёскі Межная Слабада. Цягнецца вось ужо 5 год і камасацыя вёскі Бурачкі. I тутака паўстала спрэчка між сялянамі і Земскім камісарам, які не жадае в канаць законныя трэбаваньні сялян гэнай вёскін. На ўсе трэбаваньні бурачкоўцаў пасьпяшыць з камасацыяй, Земскі камісар п. Кучыньскі толькі абяцае, што хутка пакончыць ужо камасацыю. За гэтыя пяць гадоў бурачкоўцы ўшчэнт зьвішчылі свой дабрабыт і калі камасацыя працягнецца яшчэ колькі год, то прыдзецца ім ісьці з жабранінаю.

Наагул кажучы, сымпатычная ідэя пераходу на хутры, дзякуючы староннасьці і нядбаласьці адносных чыньнікаў, ня мае належнага посьпеху сярод сялянства.

Пакрыўджаны.

# Усячына.

## Ураджайнасьць у Польшчы і Нямеччыне.

Ураджайнасьць у Нямеччыне і Польшчы у цэнтнэрах(100 кілёграмаў) з 1 гэктару прадстаўляецца у наступным відзе:

Нямеччына: (першыя лічбы адносяцца да 1909-13 г., а другія да 1924-6 г) пшаніца — 22,7—17,8, жыта 18,6—14,7, ячмень — 21,2—16,6, авёс—19,8—16,8 цэнтнэраў. Польшча: пшаніца 12,4-11,5, жыта—11,2-10,2-107, ячмень—11,8,-12,1 і авёс— 10,2-11,3.

Вось якая розніца ў ураджайнасьці дзякуючы толькі розніцы культуры.

## З пэдслуханых гутарак.

### Каму калі ляпей жывецца?

— Эндэк: мне жылося ляпей да маёвага перававароту.

— „Санатар:“ мне жывецца ляпей пасьля маёвага перавароту

— Беларус: а мне будзе ляпей па сьмерці, на тым сьвеце.

### „Успаміны з Пэрсіі“ Дзядзькі Пранука.

— Якая розьніца між беларускімі палітычнымі банкрутамі і іншымі?

— Усе пішуць „Успаміны“ пасьля свайго палітычнага банкруцтва, а беларусы перад банкруцтвам.

### Добрая рада.

Калі няма каго лаяць, дык хвалі сябе.

(„За дваццаць пяць гадоў“).

### „Маланка“.

— Чаму цяпер ня „смаліць“ „Маланка“?

— Бо зіма і няма грому.

# Паштовая Скрынка.

**К. С.** Усё тое, што Вы пішаце у сваёй карэспандэнцыі, ня мае агульнага значэньня. Рэдакцыя яе не зьмяшчае, бо ўсё роўна гэтым нічога не паправім.

**Пчолка.** Ваша карэспандэнцыя аб „Беларусізацыі Царквы і Касьцёлу“ надаецца для друку, толькі ня зьмешчана пакуль дзеля нястачы мейсца.

**Вясковы.** Ваша карэспандэнцыя „З жыцьця Нясьвіскага павету“ будзе зьмешчана ў наступным нумары газэты.

**П. Ач.** Ваша карэспандэнцыя аб нашых „павадырох“ не дае нічога новага. Ня варта паперы псаваць на гэтую тэму. Частка іх ужо сама збанкрутавала і пайшла да „архіву“, а рэшту чакае гэткі-ж лёс, калі апамятуюцца.

**Ю. Сяргеевіч.** Кніжкі Вам высланы праз кнігарню Станкевіча.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друк. ім. Фр Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.